ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 10 (48)

КАСТРЫЧНІК 1936 г.



МЕНСК—1936

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 10 (48)

КАСТРЫЧНІК 1936 г.

МЕНСК—1936

# 1. Афіцыйны раздзел

## ПАСТАНОВА № 945

### Совета Народных Камісараў БССР

*9 верасня 1936 г.* *г. Менск.*

**Аб частковай змене пастановы СНК БССР ад 28/IV—36 г. аб аператыўна-статыстычнай справаздачнасці па НК мясцовай прамысловасці.**

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР № 1251 ад 13/VII—36 г. „Аб учоце і справаздачнасці па капітальнаму будаўніцтву на 1936 г.“, Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

Адмяніць установленую пастановай СНК БССР ад 28/IV—36 г. (пратакол № 14) аператыўна-статыстычную справаздачнасць у частцы капітальнага будаўніцтва па НК мясцовай прамысловасці, а іменна:

ф. № 13—„Выкананне плана капітальных работ“;

ф. № 10-а—„Вытворчасць капітальных работ“;

ф. № 10-б—„Справаздача аб адміністрацыйных выдатках“;

ф. № 5„—Справаздачная картка па выкарыстанню машын і механізмаў“;

ф. № 2-а—„Рух абсталявання да ўстаноўкі“.

ф. № 2-б—„Рух асноўных матэрыялаў для капітальных работ“

і форму—„Дынаміка элементаў каштоўнасці будаўніцтва“.

Нам. старшыні Совета Народных
Камісараў БССР А. Любовіч.

Кіраўнік спраў Совета Народных
Камісараў БССР І. Лук'янчык

# ПАСТАНОВА № 982

## Совета Народных Камісараў БССР

*17 верасня 1936.* *гор. Менск.*

**Аб парадку зацверджання і публікацыі бухгалтарскіх адчотаў і балансаў дзяржаўных і кааперацыйных гаспадарчых органаў і прадпрыемстваў рэспубліканскага і мясцовага падпарадкавання.**

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР за 29 ліпеня 1936 года № 3165, Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

Устанавіць наступны парадак зацверджання і публікацыі бухгалтарскіх адчотаў і балансаў дзяржаўных і кааперацыйных гаспадарчых органаў і прадпрыемстваў рэспубліканскага і мясцовага падпарадкавання:

1. Гадавыя бухгалтарскія адчоты і балансы прадпрыемстваў, уваходзячых у склад трэстаў і іншых гаспадарчых органаў, разглядаюцца і зацвярджаюцца кіраўнікамі апошніх у тэрмін, забяспечваючы своечасовае складанне і прадстаўленне гэтымі органамі зводных справаздач і балансаў.

2. Гадавыя бухгалтарскія адчоты і балансы трэстаў і самастойных прадпрыемстваў рэспубліканскага падпарадкавання зацвярджаюцца наркомамі, або іх намеснікамі па належнасці. Бухгалтарскія адчоты кааперацыі зацвярджаюцца адпаведнымі рэспубліканскімі кааперацыйнымі саюзамі.

3. Гадавыя балансы і адчоты па прадпрыемствах і арганізацыях мясцовага падпарадкавання зацвярджаюцца адпаведнымі раённымі выканаўчымі камітэтамі альбо горсоветамі па належнасці.

4. Заключныя балансы і рахункі прыбыткаў і страт публікуюцца гаспадарчымі і кааперацыйнымі органамі рэспубліканскага падпарадкавання (у тым ліку самастойнымі прадпрыемствамі, непасрэдна падпарадкаванымі наркаматам і цэнтральным установам) у выглядзе спецыяльнага дадатку ў газеце „Звязда“ не пазней 2-дэкаднага тэрміна са дня канчатковага зацверджання баланса.

Ведамствам, якім падпарадкаваны паказаныя органы, прадастаўляецца права аслабаняць іх па ўзгадненню з НК Фінансаў ад абавязковай публікацыі гадавых адчотаў і балансаў.

Публікацыя балансаў арганізацый і прадпрыемстваў мясцовага падпарадкавання, а таксама прадпрыемстваў, уваходзячых у склад трэстаў і іншых гаспадарчых органаў, не абавязкова.

Пярвічныя кааператывы абавязаны публікаваць свае балансы толькі найбольш моцныя з іх. Спіс такіх каапера-

тываў штогодна ўстанаўліваецца рэспубліканскімі каапера-цыйнымі саюзамі па ўзгадненню з НК Фінансаў.

6. Абавязаць наркаматы і цэнтральныя ўстановы неадкладна даслаць усім падпарадкаваным трэстам і прадпрыемствам зацверджанае СНК СССР „Палажэнне аб бухгалтарскіх адчотах і балансах“ і інструкцыю НК Фінансаў СССР па ўжыванню гэтага палажэння.

Нам. старшыні Совета Народных
Камісараў БССР А. Любовіч

Кіраўнік спраў Совета Народных
Камісараў БССР І. Лук'янчык

## ЗАГАД № 422

## па Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

*27 верасня 1936 г.* *г. Менск*

Пастановай СНК СССР ад 20 ліпеня 1936 г. за № 1326 правядзенне перапісу насельніцтва ў стацыянарных лекавых установах (бальніцы, санаторыі, дзіцячыя дамы) ускладаецца на адміністрацыю паказаных устаноў. У сувязі з гэтым загадваю:

1. Усім райгорздравам прадставіць раённаму інспектару народна-гаспадарчага ўчота не пазней 15 кастрычніка вычэрпальныя спісы паказанага тыпу ўстаноў з паказаннем дакладнага адраса, якія знаходзяцца на тэрыторыі вашага раёна, незалежна ад таго, падпарадкаваны яны непасрэдна Райздраву ці непасрэдна НКЗдраву; адначасова копію спіса даслаць у НКАЗБ.

2. Абавязаць усіх кіраўнікоў вышэйпаказаных устаноў паведаміць інспектару народна-гаспадарчага ўчота прозвішча асобы, адказнай за правядзенне перапісу па данай установе, прычым ва ўстановах, маючых звыш 150 коек, акрамя назначэння адказнай асобы за правядзенне перапісу, кіраўнік установы вызначае з складу персанала патрэбную колькасць асоб для правядзення перапісу з разліку, прыкладна, адну на 150 чал.

Увага: Па г. г. Менску, Віцебску, Гомелю, Полацку, Лепелю, Слуцку і Мазыру спісы прадстаўляюцца гарадскому інспектару народна-гаспадарчага ўчота.

3. Абавязаць кіраўнікоў устаноў вызначаных для правядзення перапісу асоб безагаворачна выслаць на інструктаж па запатрабаванню інспектара народна-гаспадарчага ўчота.

4. Агульнае кіраўніцтва гэтай справай ускладаецца на т. *Говара*.

Нам. Наркома Аховы Здароўя БССР Нейштадт

# ЗАГАД №177

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*ад 25-га верасня 1936*

Пры абследаванні становішча работы Плешчаніцкай райінспектуры высветлена недапушчальная халатнасць райінспектара да выканання плана работ і адсутнасць працдысцыпліны, што бачна з наступнага:

1. Сельсовецкія карты не выверany і спісы насялённых пунктаў да гэтага часу не скончаны і не праверaны, па 4-х сельсоветах перапісны штат не падабран.

2. Яўка на работу ў інспектуру замест 9-ці гадзін раніцы—у 10 гадзін.

3. Матэрыял і справы (як спіс насялённых пунктаў) знаходзяцца пасля работы на вокнах.

4. Сельсоветам спушчаны кнігі пярвічнага ўчота не пранумараваныя і не прашнураваныя.

5. Кніга асноўных паказчыкаў выканання народна-гаспадарчага плана раёна не заведзена.

Усё гэта ўказвае на нядбайныя адносіны да сваіх прамых абавязкаў і безадказнасць да даручанай справы; у выніку чаго інспектура знаходзіцца ў апошнія месяцы ў 3 і 4-х катэгорыі.

За халатныя адносіны да сваіх абавязкаў абвясціць райінспектару т. *Балваненко* вымову.

Прапанаваць т. *Балваненко* ў бліжэйшыя дні знішчыць паказаныя недахопы.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР **Владзімірскі**

# ЗАГАД № 178

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*ад 28-га верасня 1936 года*

Праверкай становішча работы па вымярэнню ўраджаю бульбы ў 1936 г. па Халопеніцкаму раёну, праведзенаму раз'язным інструктарам КНГУ БССР т. *Ліхадзіеўскім*, устаноўлена, што з боку райінспектара т. *Майсеенко* праяўлены недапушчальныя адносіны да гэтай важнейшай работы, атрымаўшыя свой выраз у наступным:

1. Тав. *Майсеенко,* не правёўшы інструктажа ўчастковых інспектароў па вымярэнню ўраджаю бульбы, накіраваў іх у калгасы для правядзення работы. Прычым гэта работа ў Халопеніцкім раёне пастаўлена ўпершыню, і ўчастковым інспектарам гэткая была зусім не знаёма.

2. Тав. *Майсеенко* ні аднаго разу не выязджаў у вылучаныя калгасы па вымярэнню ўраджаю бульбы для праверкі ходу работы ў той час, як згодна оргплана па вымярэнню, райінспектар павінен наведваць не менш 2-х разоў кожны вымяраемы калгас у час вымярэння.

У выніку пры праверцы работы на месцы ў калгасе т. *Ліхадзіеўскім,* работа па вымярэнню ўраджаю бульбы ўчастковым інспектарам т. *Жукавым* праводзілася з грубымі скажэннямі інструкцыі як пры ўзяцці проб, так і пры вызначэнні вагі з узятых проб. Вага проб вызначалася ім „на вока“, кашолкамі, у той час як вага проб павінна быць устаноўлена самым дакладным чынам (да дзесятых кілограма) на праверaных вагах. Участковы інспектар т. *Жукаў* нават не ведаў, якім чынам і чым (пяціметравай рэйкай) трэба браць пробы. Зразумела, што ў выніку гэткай „работы“ такі матэрыял можа прынесці дзяржаве толькі шкоду.

Такое становішча магло стварыцца толькі з прычыны фармальна-бюракратычных і несур‘ёзных адносін, да работы з боку райінспектара т. *Майсеенко,* які ў першую чаргу нясе за яе адказнасць.

На падставе вышэйпрыведзеных фактаў, за праяўленыя фармальна-бюракратычныя адносіны да работы па вымярэнню ўраджаю бульбы інспектару Наргасучота Халопеніцкага раёна т. *Майсеенко* абвяшчаю суровую вымову і папярэджваю, што ў выпадку паўтарэння падобных з‘явішч будуць прыняты больш суровыя меры спагнання.

Гэты загад абвясціць усім работнікам райінспектур і ўчастковым інспектарам.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР **Владзімірскі.**

# Указанні да складання раённага арганізацыйнага плана падрыхтоўкі і правядзення ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1937 года.

## Агульныя ўказанні.

Арганізацыйны план падрыхтоўкі і правядзення перапісу насельніцтва па раёну складае раённы інспектар Наргасучота. План складаецца не менш, як у двух экземплярах, якія прадстаўляюцца асабіста райінспектарам праз Бюро перапісу насельніцтва начальніку КНГУ БССР для зацверджання.

Адзін экземпляр зацверджанага оргплана звараeasceцца райінспектару для выканання, а другі застаецца ў Бюро перапісу насельніцтва для кантроля за ходам выканання.

Тэрмін прадстаўлення оргплана па вашаму раёну—адначасова з вашым прыездам на інструктаж.

Увага: Оргплан павінен быць надрукаван на машынцы і праверан пасля надрукавання.

2. Як правіла, усе графы оргплана, за выключэннем гр. 6, павінны быць запоўнены пры самым складанні оргплана і іменна тым зместам, які дан у загалоўку граф; незапоўненымі могуць быць гр. 3, 4, 5 толькі ў тым выпадку, калі па данай рабоце не даны інструкцыйныя ўказанні і не вызначаны бюро перапісу насельніцтва тэрміны для яе выканання. -

Графа 6 служыць для адзнак тэрміна фактычнага выканання работы і якасці.

Увага: Ацэнка выкананай работы даецца для работнікаў інспектуры райінспектарам, а па інспектуры ў цэлым (ацэнка работы райінспектара)—Бюро перапісу насельніцтва.

Інфармацыя аб данай Бюро перапісу ацэнцы кожнай работы і аб тэрмінах выканання будзе праводзіцца праз „Бюлетэнь Кіраўніцтва“ ці праз спецыяльныя бюлетэні Бюро перапісу насельніцтва.

3. У оргплан раёна ўключаюцца ўсе падрыхтоўчыя да перапісу насельніцтва работы, незалежна ад таго, ці выкананы яны ўжо, ці яшчэ павінны быць выкананы.

4. Тэрміны, вызначаныя Бюро перапісу насельніцтва для вашага раёна па выкананню кожнай работы, з'яўляюцца максімальнымі і ніякія адтэрміноўкі не могуць мець месца.

У межах вызначаных тэрмінаў райінспектар вызначае кожнаму выканаўцу (у залежнасці ад выконваемай работы, яе аб'ёму і іншых прычын) асобыя тэрміны, напрыклад: тэрміны для складання пасялённых карт па I інспектарскаму ўчастку, распалажанаму вакол раённага цэнтра, і які ўключае ў сябе 4 сельсоветы, будзе некалькі іншы, чым тэрмін для III інспектарскага ўчастка, які распалажан далёка ад

райцэнтра і ўключае ў сябе 6 сельсоветаў. Ясна, што інспектар І участка пры роўных іншых умовах можа выканаць работу хутчэй, чым інспектар III участка.

5. Тэрміны вызначаюцца выканаўцам з такім разлікам, каб заставаўся час на праверку і выпраўленне.

6. У працэсе выканання кожнай работы павінна быць праведзена райінспектарам праверка з мэтай высвятлення:

а) ці прыступлена да выканання задання ў вызначаны тэрмін;

б) ці дакладна зразумеў выканаўца мэту і тэхніку данай работы.

7. Пры пастаноўцы работы абавязкова праводзіцца інструктаж і праверка ведаў інструктуемых.

Увага: Калі для райінспектара ў інструкцыі акажацца незразумелым якое-небудзь пытанне, ён абавязан да інструктажа высветліць яго ў Бюро перапісу насельніцтва. Запытанне пасылаецца, у залежнасці ад вызначанага для данай работы часу, па пошце ці здаецца па тэлеграфу і тэлефону.

8. Не адпавядаючыя для данага раёна пункты райінспектар у свой аргплан не запісвае, але нумарацыю застаўшыхся пунктаў захоўвае тую, якая дадзена ў далучаемай схеме. Напрыклад: для раёнаў, у якіх адсутнічаюць горпаселішчы, пункт 10 у аргплан не запісваецца, але наступны пункт будзе не 10, а 11. Калі райінспектар знойдзе патрэбным уключыць у свой аргплан такі пункт, які не прадугледжан схемай, то ён яго ўключае пад нумарам з літарай, напрыклад: 11-а, 13-а і г. д.

## Значэнне паасобных пунктаў.

9. Пункт 4. Для таго, каб была магчымасць правесці правільна разбіўку раёна на інструктарскія і шчотныя ўчасткі, неабходна паказаць па кожнаму насялённаму пункту, запісанаму на сельсовецкай карце, колькасць душ насельніцтва. Даныя бяруцца са спіса насялённых пунктаў.

Увага І. У спісах насялённых пунктаў некаторых раёнаў па частцы насялённых пунктаў не паказана колькасць насельніцтва. У гэтых выпадках неабходна папярэдне праставіць колькасць насельніцтва па кожннаму насялённаму пункту, паказанаму ў спісу, і толькі пасля гэтага пераносіць на карту.

Увага II. Спіс насялённых пунктаў райінспектар павінен мець пры сабе на інструктажы для таго, каб была магчымасць зрабіць выпраўленне ў спісу насялённых пунктаў, якія маюцца ў Бюро перапісу насельніцтва.

10. Пункт 5. За час ад сканчэння складання насялённых карт да пачатку перапісу могуць быць змены ў насялённых пунктах, напрыклад: сцягванне хутараў, пабудова часовых жылых будынкаў і г. д., таму неабходна паставіць пільны нагляд за ўсімі зменамі ў складзе насялённых пунктаў.

11. Пункт 6. Аб усіх зменах у складзе насялённых пунк-

таў ці аб адсутнасці іх, інспектар паведамляе Бюро перапісу насельніцтва 5/X, 5/XI, 5/XII і 20/XII.

12. Пункт 11. Указанне будзе дадзена дадаткова.

13. Пункт 18. На інструктаж раінспектар павінен прыбыць у Менск ______ кастрычніка. Аб часе і месцы інструктажа ўчастковых інспектароў будзе паведамлена дадаткова.

Інструктаж кантралёраў-інструктароў і шчотчыкаў праводзіцца ўчастковымі інспектарамі з 1 па 15 снежня. Выбар месца для правядзення інструктажа неабходна правесці з такім разлікам, каб кантралёры-інструктары і шчотчыкі на час інструктажа не адрываліся ад сваёй сталай работы.

На інструктажы кантралёраў-інструктароў і шчотчыкаў павінен прысутнічаць раінспектар не менш, як у адной трэці сельсоветаў.

14. Пункт 19. Разбіўка тэрыторыі раёна і сельсоветаў на інструктарскія ўчасткі праводзіцца наступным чынам: на сельсовецкай карце, на якой нанесены ўсе насялённыя пункты, і па кожнаму насялённаму пункту паказан лік насельніцтва, праводзяцца алоўкам межы будучага ўчастка з такім разлікам, каб на кантралёра-інструктара ў сярэднім па вашаму раёну прыходзілася ______ душ насельніцтва. Пры гэтым улічваецца сувязь паміж асобнымі паселішчамі (дарогі), адлегласць аднаго насялённага пункта ад другога і велічыня насялённых пунктаў.

Увага: Інструктарскі ўчастак, у склад якога ўваходзіць нязначная колькасць буйных насялённых пунктаў, можа мець некалькі больш насельніцтва, чым участак, які складаецца з дробных насялённых пунктаў.

Кожнаму кантралёру-інструктару павінна быць выдана сельсовецкая карта з межамі яго ўчастка. З гэтага выцякае, што на сельсовет патрэбна мець столькі карт, колькі ў ім будзе кантралёраў-інструктароў.

Участковаму ўпаўнаважанаму выдаецца карта яго ўчастка, на якой павінны быць нанесены межы інструктарскіх участкаў.

15. Горпаселішчы вашага раёна разбіваюцца на:

| Назва горпаселішча | Перапісных аддзелаў | У іх арганізуецца | | Увага |
|---|---|---|---|---|
| | | Інструктарскіх участкаў. | Шчотных участкаў | |
| | | | | |

16. Пункт 22. Разбіўка інструктарскіх участкаў на шчотныя ўчасткі праводзіцца па сельсовецкіх картах, на якіх ужо нанесены ўсе насялённыя пункты, і па кожнаму з іх паказана колькасць насельніцтва, але межы шчотных участкаў на карту не наносяцца ў сувязі з тым, што ў значнай частцы выпадкаў гэта зрабіць будзе немагчыма.

Пры разбіўцы на шчотныя ўчасткі трэба ўлічваць адлегласць паселішч, уваходзячых у шчотны ўчастак. Адлегласць патрэбна выбіраць па дарогах найменшую. У выніку разбіўкі складаецца дадатак 1-ы. Запаўненне формы дадатка 1-га праводзіцца наступным чынам: напрыклад, нам патрэбна разбіць на шчотныя ўчасткі наступныя насялённыя пункты:

| | | |
|---|---|---|
| Хутар Зялёны . . . . . . . . . . . | 6 | душ насельніцтва |
| Хутары Падгарэлыя . . . . . . . . . | 313 | " " |
| Вёска Машкавічы . . . . . . . . . . | 75 | " " |
| Хутар Забароддзе . . . . . . . . . . | 10 | " " |
| Вёска Залоззе . . . . . . . . . . . | 102 | " " |
| | 506 | душ насельніцтва |

Пры норме 180 чалавек на шчотчыка, даныя паселішчы можна разбіць на тры шчотныя ўчасткі. Запіс будзе мець, прыкладна наступны выгляд:

| №№ шчотных участк. | Назва насялённых пунктаў, уваходзячых у шчотны ўчастак | Прыкладная колькасць насельніцтва. | Час правядзення кантрольнай праверкі і асобыя ўказанні | Прозвішча шчотчыкаў | Іх адрасы |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Хутар Зялёны . .<br>Хутары Падгарэлыя . . . . . | 6<br>150 | Кантралёру-інструктару паказаць межы паміж 1 і 2 шчотным участкам...снежня Кантрольная праверка 7/1 1937 г. | Мацкевіч М. Н. | Хутары Падгарэлыя |
| 2 | Хутары Падгарэлыя . . . . . | 157 | Кантрольныя абходы 7 и 8 студзеня | Зенькевіч А. П. | Вёска Машкавічы |
| 3 | Вёска Машкавічы<br>Хутары Забароддзе . . . . . .<br>Вёска Залоззе . . | 77<br>10<br>102 | Кантрольная праверка 7 і 8 студзеня | Забарэвіч Т. В. | Вёска Машкавічы |

Прыблізна такім-жа чынам праводзіцца разбіўка горпаселішч на інструктарскія і шчотныя ўчасткі, толькі замест спіса насялённых пунктаў бярэцца спіс домаўладанняў. Разбіўку на інструктарскія ўчасткі патрэбна рабіць з такім разлікам, каб ва ўчастак уключаліся цэлыя кварталы, але могуць быць выпадкі (у буйных гарадах), калі адзін квартал будзе мець 2 інструктарскіх участкі.

17. Аб парадку запаўнення пунктаў: 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 31, 32, 33 указанні будуць дадзены на інструктажы.

Астатнія пункты тлумачэнняў не патрабуюць.

ЧВА начальніка Бюро перапісу
насельніцтва КНГУ БССР Кубан

## Арганізацыйны план падрыхтоўкі і правядзення ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1937 года

Па..............................раёну

| №№ п/ч | Назва работ і мерапрыемстваў | Выканаўцы | Час: пачатку | Час: сканчэння | Фактычнае выкананне і якасць |
|---|---|---|---|---|---|
| | **I. Складанне спісаў насялёных пунктаў, схематычных карт раёнаў і сельсаветаў і спісаў калгасаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый** | | | | |
| 1 | Праверка ў натуры спісаў насялённых пунктаў, атрыманых ад Бюро перапісу насельніцтва. | | | | |
| | Па I інспектарскаму ўчастку . . . . | | | | |
| | Па II інспектарскаму ўчастку . . . . | | | | |
| | і г. д. | | | | |
| 2 | Канчатковая выверка спісаў насялённых пунктаў з указаннем па кожнаму насялённаму пункту ліку гаспадарак і насельніцтва. | | | | |
| | Па I інспектарскаму ўчастку . . . . | | | | |
| | Па II інспектарскаму ўчастку . . . . | | | | |
| | і г. д. | | | | |
| 3 | Складанне схематычных карт, планаў гарадоў і гарадскіх паселішч: | | | | |
| | а) карта раёна . . . . . . . . . . . | | | | |
| | б) карты сельсоветаў . . . . . . . . | | | | |
| | в) план горада . . . . . . . . . . . | | | | |
| 4 | Выверка карт раёна і сельсоветаў паданых спісаў насялённых пунктаў і нанясенне на карты даных аб колькасці насельніцтва па кожнаму насялённаму пункту | | | | |
| 5 | Выданне пастановы РВК, абавязваючай старшынь сельсоветаў паведамляць штомесячна 1-га чысла, а ў снежні 15-га чысла, аб усіх зменах у складзе насялённых пунктаў | | | | |
| 6 | Утачненне спіса насялённых пунктаў: | | | | |
| | у кастрычніку . . . . . . . . . . . | | | | |
| | у лістападзе . . . . . . . . . . . . | | | | |
| | у снежні . . . . . . . . . . . . . . | | | | |

| №№ п/ч | Назва работ і мерапрыемстваў | Выка- наўцы | Час | | Фактычнае выкананне і якасць |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | па- чатку | скан- чэння | |
| 7 | Паведамленне Бюро перапісу насельніцтва КНГУ БССР аб усіх зменах у складзе насялённых пунктаў альбо аб адсутнасці іх: | | | | |
| | У кастрычніку . . . . . . . . . . . | | | | |
| | У лістападзе . . . . . . . . . . . . | | | | |
| | У снежні . . . . . . . . . . . . . . | | | | |
| 8 | Складанне пасялённых карт: | | | | |
| | Па I інспектарскаму ўчастку . . . . | | | | |
| | Па II інспектарскаму ўчастку . . . . | | | | |
| | і г. д. | | | | |
| 9 | Праверка на месцы ў сельсоветах правільнасці складання пасялённых карт па сельсоветах | | | | |
| 10 | Складанне спісаў домаўладанняў па | | | | |
| 11 | Даць указанне Райздраву, РайАНА, Райсабезу і інш. арганізацыям, маючым у сваім веданні хворых у бальніцах і клініках, адпачываючых у санаторыях і дамах адпачынку, дзяцей, знаходзячыхся ў дамах мацеры і дзіцяці, у дамах дзіцяці, у яслях санаторнага тыпу, выхавальнікаў дзіцячых дамоў, а таксама інвалідаў, знаходзячыхся ў дамах інвалідаў, прадставіць вычарпальныя спісы ўказанага тыпу ўстаноў з указаннем падрабязнага адрасу месцазнаходжэння кожнай установы. | | | | |
| 12 | Атрымаць ад Бюро перапісу насельніцтва КНГУ БССР: | | | | |
| | а) Спісы паказанага ў п. 11 тыпу ўстаноў, знаходзячыхся ў веданні Трансупра НКШЗ, ЦК Чырвонага Крыжу і ЦСПСБ; | | | | |
| | б) Спісы ўстаноў і домаўладанняў, у якіх перапіс праводзіцца ў асобым парадку. | | | | |
| 13 | Складанне спісаў: | | | | |
| | а) Усіх прамысловых, транспартных будаўнічых і іншых прадпрыемстваў, а таксама ўстаноў і арганізацый, незалежна ад велічыні і прыналежнасці іх. | | | | |
| | Па I інспектарскаму ўчастку . . . . | | | | |

| №№ п/ч | Назва работ і мерапрыемстваў | Выканаўцы | Час | | Фактычнае выкананне і якасць |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | пачатку | сканчэння | |
| | Па II інспектарскаму ўчастку . . . .<br>і г. д.<br>б) Усіх калгасаў:<br>Па I інспектарскаму ўчастку . . . .<br>Па II інспектарскаму ўчастку . . . . | | | | |
| 14 | Праверка спісаў прамысловых, транспартных, будаўнічых і іншых прадпрыемстваў, складзеных у Бюро перапісу насельніцтва:<br>Па I інспектарскаму ўчастку . . . .<br>Па II інспектарскаму ўчастку . . . .<br>і г. д. | | | | |
| | **II. Падбор і падрыхтоўка кадраў**<br>**А. Падбор кадраў** | | | | |
| 15 | Падабраць і прадставіць праз КНГУ БССР у СНК БССР зацверджаныя прэзідыумам РВК кандыдатуры памочнікаў райупаўнаважанага і ўчастковых упаўнаважаных і ўпаўнаважаных па гораду | | | | |
| 16 | Вызначыць кандыдатуры памочнікаў участковага ўпаўнаважанага . . . чал., кантралёраў—інструктароў . . . . чал., шчотчыкаў . . . чал. і рэзерв . . . чал. і прадставіць прэзідыуму РВК для зацверджання. | | | | |
| 17 | Даць указанне кіраўнікам устаноў, паказаных у п. п. 11 і 12, прадставіць спісы асоб, адказных за правядзенне перапісу | | | | |
| | **Б. Падрыхтоўка кадраў** | | | | |
| 18 | Інструктаж перапіснога персанала праводзіцца ў наступным парадку:<br>а) райупаўнаважаных . . . . . . . .<br>б) участковых упаўнаважаных . . .<br>в) намеснікаў участковых упаўнаважаных, інструктароў - кантралёраў, шчотчыкаў, а таксама шчотчыкаў і кантралёраў-інструктароў бальніц, дзетдамоў і інш. устаноў, паказаных у п. п. 11 і 12.<br>Па . . . . . . . . сельсовету . . .<br>Па . . . . . . . . сельсовету . . .<br>Па гораду . . . . горупаўнаважаных | Бюро перапісу насельніцтва | | | |

| №№ п/ч | Назва работ і мерапрыемстваў | Выканаўцы | Час | | Фактычнае выкананне і якасць |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | пачатку | сканчэння | |
| | На інструктажы прысутнічае:<br>а) у . . . . . сельсоветах тав. . . .<br>б) у . . . . . сельсоветах тав. . . . | | | | |
| | **III. Разбіўка тэрыторыі раёна і сельсоветаў, інструктарскія ўчасткі і шчотныя ўчасткі** | | | | |
| | Па І інспектарскаму ўчастку . . . .<br>Па II інспектарскаму ўчастку . . .<br>і г. д. | | | | |
| 19 | Нанясенне на раённую і сельсовецкія карты межаў перапісных аддзелаў і інструктарскіх участкаў . . . . . . . | | | | |
| 20 | Капіроўка карт:<br>а) раённых карт для кожнага перапіснога аддзела з нанясеннем межаў інструктарскіх участкаў . . . . . . .<br>б) сельсовецкіх карт для кожнага інструктарскага ўчастка данага сельсовета . . . . . . . . . . . . . . . .<br>Участковы ўпаўнаважаны І перапіснога аддзела<br>Участковы ўпаўнаважаны II перапіснога аддзела і г. д. | | | | |
| 21 | Нанясенне на план па гор . . . . .<br>межаў перапісных аддзелаў . . . . . . | | | | |
| 22 | Зрабіць разбіўку тэрыторыі:<br>а) па сельсовецкіх картах інструктарскага ўчастка на шчотныя ўчасткі (дадатак І) . . . . . . . . . . . . . . . .<br>б) па планах горпаселішч і спісах домаўладанняў на інструктарскія ўчасткі і шчотныя ўчасткі (дадатак 2). | | | | |
| 23 | Скласці ведамасць размеркавання фармуляраў перапісу, выдачы пасведчанняў і нагрудных значкоў (дадатак 3 і 4) . . . . . . . . . . . . . . . . | | | | |
| 24 | Загатоўка пасведчанняў для перапіснога персанала . . . . . . . . . . . . | | | | |
| 25 | Дадатковы інструктаж кантралёраў-інструктароў, шчотчыкаў, праверка ведаў і выдача фармуляраў перапісу, пасведчанняў і нагрудных значкоў і складанне распісання парадка правядзення кантрольнай праверкі. | | | | |

| №№ п/ч | Назва работ і мерапрыемстваў | Выканаўцы | Час | | Фактычнае выкананне і якасць |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | па-чатку | скан-чэння | |
| | Па І-му перапіснаму аддзелу: | | | | |
| | а) інструктарскія ўчасткі № 1, 2, 3, 4, 5 у . . . . . . . . . . . . . . | | | | |
| | б) інструктарскія ўчасткі №№ 6, 7, 8 у . . . . . . . . . . . . . . . . . . | | | | |
| | Райупаўнаважаны і ўчастковы ўпаўнаважаны І перапіснога аддзела. | | | | |
| | в) інструктарскія ўчасткі № 9, 10, 11, 12 у . . . . . . . . . . . . . . . | | | | |
| | Райупаўнаважаны і ўчастковы ўпаўнаважаны II перапіснога аддзела. | | | | |
| | Інструктарскія ўчасткі і г. д. | | | | |
| 26 | Устанаўленне межаў у натуры і азнаямленне з участкам праводзіцца: | | | | |
| | а) Па сельскіх мясцовасцях (гл. дадатак 1) . . . . . . . . . . . . . . . . . | | | | |
| | б) Па гораду . . . . . . . . . . . . | | | | |
| | **IV. Масава-растлумачальная работа** | | | | |
| 27 | Масава-растлумачальная работа аб значэнні і парадку правядзення перапісу насельніцтва праводзіцца (гл. дадатак 5) . . . . . . . . . . . . . . . | | | | |
| 28 | Інструктаж удзельнікаў правядзення масава-растлумачальнай работы аб значэнні перапісу: | | | | |
| | райінспектар . . . . . . . . . . . . | | | | |
| | **V. Правядзенне перапісу.** | | | | |
| 29 | У час правядзення перапісу і кантрольнай праверкі, г.зн. з 1 па 11 студзеня ўключна, райупаўнаважаны і яго памочнікі ўчастковыя ўпаўнаважаныя альбо іх памочнікі праводзяць праверку пачатку работы, правільнасці запаўнення перапіснога ліста шчотчыкамі і работы кантралёраў-інструктараў. | | | | |
| | Нам. райупаўнаважанага т. . . . . . перапіснога аддз . . . . . . інстр. уч. | | | | |
| | " " . . . . . . . " " | | | | |
| | Райупаўнаважаны т. . . . . . . . . перапісн. аддз. . . . . . . . інстр. уч. | | | | |
| | " " . . . . . . . " " | | | | |
| | На час раз'ездаў, райупаўнаважанага замяшчае намеснік райупаўнаважанага т. . . . . . . . . . . . . . . . . . | | | | |

<table>
<tr><th rowspan="2">№№ п/ч</th><th rowspan="2">Назва работ і мерапрыемстваў</th><th rowspan="2">Выканаўцы</th><th colspan="2">Час</th><th rowspan="2">Фактычнае выкананне і якасць</th></tr>
<tr><th>пачатку</th><th>сканчэння</th></tr>
<tr><td>30</td><td>Уч. упаўнаваж. . . . перапісн. аддз. т. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .<br>у сваім аддзеле . . . . інстр. уч.<br>„ . . . . . . „ „<br>і г. д.</td><td></td><td></td><td></td><td></td></tr>
<tr><td>31</td><td>Складанне ўч. упаўнаважанымі расписання праверкі кантралёрамі-інструктарамі работы шчотчыкаў . . . . . . .<br><br>VI. Тэрміновыя данясенні аб ходзе перапісу насельніцтва.<br><br>Кантралёры-інструктары пасылаюць участковаму ўпаўнаважанаму тэрміновае данясенне па форме.<br>
<table>
<tr><th>Усяго шчотных участкаў</th><th>Лік шчотных участкаў, закончыўшых перапіс</th><th>Перапісана насельніцтва абодвых полаў ва ўчастках, у якіх перапіс скончан</th></tr>
<tr><td>1</td><td>2</td><td>3</td></tr>
</table>
Кантралёры-інструктары:<br>1. Інструкт. участак . . . . . . . .<br>(паказаць спосаб перадачы паведамленняў: асабіста, тэлефон, нарачны)<br>2. Інструкт. уч . . . . . . . . . . .<br>і г. д.</td><td></td><td></td><td></td><td></td></tr>
<tr><td>32</td><td>Участковыя ўпаўнаважаныя пасылаюць райупаўнаважанаму паведамленні па форме, паказанай у п. 31.<br><br>Увага: Гарадскія ўпаўнаважаныя паведамляюць ітогі асобна па гораду і асобна па сялу.<br><br>Участковыя ўпаўнаважаныя:<br>I. Перапіснога аддзела . . . . . . .<br>(паказаць спосаб перадачы: асабіста, тэлефон, нарачны, тэлеграф)<br>II. Перапіснога аддзела . . . . . .<br>і г. д.</td><td></td><td></td><td></td><td></td></tr>
<tr><td>33</td><td>Райупаўнаважаны НКГУ БССР пасылае паведамленне па тэлеграфу і адначасова высылае паведамленне па пошце. Паведамленне пасылаецца асобна па гарадскіх паселішчах і асобна па сельскіх.<br><br>Увага: тэлеграмы пасылаюцца толькі шыфраваныя.</td><td></td><td></td><td></td><td></td></tr>
</table>

Раённы ўпаўнаважаны________хатні адрас________

Памочнік райупаўнаважанага________хатні адрас________

Штаб райупаўнаважанага________тэлефон №________

Сродкі перасоўвання { 1) Райупаўнаважанага—конь РВК з____па____
2) Нам. райупаўнаваж. „ ____з____па____

Інструктарскіх участкаў________

Шчотных участкаў________

Рэгістратарскіх участкаў________

Перапісны аддзел (сельскі) складаецца з________с/советаў

Участковы ўпаўнаважаны________хатні адрас________

Памочнік участковага ўпаўнаважанага________хатні адрас________

Сродкі перасоўвання: { 1) Уч. упаўнаваж.—конь ____с/с____з____па
2) Нам. упаўнаваж. „ ____з____па____

Штаб________тэлефон №________

Інструктарскіх участкаў________

Шчотных участкаў________

Рэгістратарскіх участкаў________

### 1. Інструктарскі ўчастак №________

Сельсовет________

Прыкладны лік ________гаспадарк.________насельніцтва

Кантралёр-інструктар________хатні адрас________

Сродкі перасоўвання кантр.-інструктара: конь калгаса____з____па____

Штаб________тэлефон №№________

Шчотных участкаў________

| №№ шчотных участкаў | Назва насялённых пунктаў, уваходзячых у шчотны ўчастак | Прыкладная кольк. | | Час правядзення кантрольнай праверкі і асобыя ўказанні | Прозвішча шчотчыкаў | Іх адрас |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Гаспадарак | Насельніцтва | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | | | | |

Перапісны аддзел (сельскі) складаецца з________с/советаў

Участковы ўпаўнаважаны________хатні адрас________

і г. д., як па 1 перапіснаму аддзелу.

